* * *

Я
– подых ветру,
які гоніць учарашні дзень,
– вандроўка ночы і дня,
якія адлічваюць маю
штодзённасць,

я
– птушыны пералёт
у жыцці іншых.

* * *

Блукаю
на яве
і ў сне,
днём
і ўначы,
блукаю сярод людзей.

Трывогай цела трымціць.
Мільгаюць гады-цені.

Дзе ж мой сапраўдны шлях?

Сучаснае – страх.
Будучае – надзея .

Не збіцца б з дарогі.

* * *

Кажуць,
камень цвёрды,
ён цяжар часу пераможа.

Кажуць,
чалавек як камень.

Дык чаму без плачу
жыць ён не можа?

## Прамінанне

Час ракою плыве.
На прадвесні
жаўрук рассыпае
свае песні.
Прыходзіць лета
з букетам кветак.
Потым восень,
золатам убраная,
а за ёю
зіма белым-белая.
Дакуль прамінанне?

* * *

У роднай хаце
маўкліва разбіваецца
аб сцены цішыня.
Цяпер з самотаю
іду пад руку.

Словы – думкі,
думкі – мінулае

Спынілася сэрца,
дзверы замкнёны.

Мама...
Нагаварыцца не даў
нам гадзіннік.

* * *

*7 ліпеня, Пасынкі*

Дала мне мама,
малой дзяўчынцы,
грошы на цукеркі,
і, зрабіўшы модную прычоску,
ўзяла за руку ды
ў царкву на свята павяла.
Спакушалі колерамі цацкі,
пасаладзеў дзіцячы свет,
у хвіліне шчасця
змакрэлі вейкі мне ад слёз
і усміхнуўся Ян Хрысціцель
з высокіх ласкавых нябёс.

* * *

*И души их*
*во благих водворятся*

На пустых
прыпынках дзён
усё няма тых,
каго чакаем.

Клічуць па-свойму
пераблытаныя
напрамкі дарог.

Вецер
настальгіяй
заглядае ў вочы,
адыходзяць у вечнасць
кірыліцай запісаныя
імёны.

* * *

Да светлай будучыні
плыла ты, мама,
каласістым полем,
морам  васількоў.

Вілася стужкаю мяжа
без паваротаў, без канца.
Ды за намі ішло іржышча
і расколіны  – штодня.

* * *

Жыццё
нібы крышталь,
які раптоўна б’ецца,
ці як тонкая нітка,
што нечакана рвецца,
або свяча, што палае,
пакуль  вецер не ўздыхне.
Адным – пакута,
другім – казка.

Што такое жыццё?
Скажыце, калі ласка.

* * *

З душы,
што перамяняецца
ў іярданскую галубку,
з-над белай
карткі паперы
узлятае ёй насустрач
трапяткое
яе адлюстраванне –
у  адну-адзіную
гэтую хвіліну,
якое завецца –
натхненнем.

* * *

Патрэбы цела
задавальняем ежай,
душу наталяем малітвай.

Перад святым алтаром
моўчкі гонім думкі,
матылём
уздымаемся ўвысь,
удовін грош
выцягваем з дзіравай
кішэні,
каб супакоіць сумленне,
каб задобрыць нябёсы.

* * *

Пад кастрычнікавым
позіркам сонца
залацеюць лісты дрэў,
асеннім сумам
шапочуць пад нагамі,
кружаць развітальным
вальсам у вірах ветру.
Лісты – пісьмы
на дарозе ўспамінаў.

**Крык зямлі**

Чаму кнігаўка
ў роспачы
заходзіцца над лугам?
Можа хтосьці
гняздо разбурыў?
Чаму так натомлена
дыхае зямля?
Можа прасякнута
брацкай крывёю?

Ці створаны
Усявышнім свет
зможа існаваць
без нас?

## Мары

Прылягу  стомленая
на духмянай пасцелі,
з травы няспелай,
салодкай дрэмцы аддамся
і ў былое вярнуся,
сонца ў вочы загляне,
ветрык пагладзіць па твары,
ля пясчанай дарогі
зашумяць вербы
песнямі старымі,
а прахожы ў руку
мне ўкіне
медзяка ... на шчасце.

* * *

Не трэба хваліць
саміх сябе, каб
душы пустазеллем не смеціць..
Праз боль і радасць,
абяцанае, нечаканае
шукацьма крыніцы веры.
Выгнецца вясёлка дугою –
ад зямных да нябесных
шляхоў.
Можа кожны з нас тады
стане вандроўным Майсеем.

* * *

Дзеці нядолі,
выкідышы разлукі,
босага дзяцінства
слёзы,
сумныя мары
на каляровых
малюнках.

Зоркай-надзеяй
праменьчыкі ў вачах.
Закружыліся пісьмы
да Святога Мікалая.

## Хто ты?

У цябе каштанавыя вочы,
жалудовая шапка на галаве,
на шыі каралі арабін...

Хто ты?

Прыносіш у хату
водар лесу і садка,
па пустых загонах сцелеш журбу...

Ты мой сон, мой цень.
Ты бар’ер
паміж смерцю і жыццём.

Назаву цябе Восень.

## Словы

Знайсці б мне
словы праўды...
Ды каб ведаць,
дзе такіх шукаць!

Знайсці б мне
такія словы,
каб зло ў дабро
маглі перамяніць.

Толькі чаму,
калі мне здаецца,
што да іх ўжо блізка,
перада мною
ізноў вятрак стаіць?

## Вясна

Густым водарам чаромхі
дурманіць мяне вясна.
Сейбіта кліча бацькоўскае поле,
хаця за плугам коней
даўно ніхто ўжо не паганяе.
У сажалцы міргае жаба,
гукаецца з глыбінь таемных,
а перад ёю я ўжо не сабою,
а прывабнаю русалкай вадзяною.
У прасторах неба
бусел з бусліхаю, такія маладыя,
новы дом для прышласці сваёй
будуюць.
Айчынная прырода ў квецені.
Душы дзверы райскія расчынены.

* * *

У італьянскім сонцы
зіхацяць макі,
быццам медалі
на грудзях байцоў.
Макавым сном дрэмле
славутае Монтэ Касіно,
а ў жылах гісторыі
плыве макавая чырвань.
Вайна адышла з тымі,
каму гарыць вечны агонь,
каму штогод схіляюць
галовы чырвоныя макі.

* * *

Навошта гэты маскарад
у свеце, створаным
лісьлівымі вачыма?
Не туды вядзе нас
Нябесны Айцец
у міласэрнасці бязмежнай!

Нам усё не па дарозе,
нам усё нязручна,
хаця б не першым,
а быць апошнім,
Настаўнік,
Тваім вучнем.

## Ачышчэнне

На пустым полі дагарае
бульбяное вогнішча,
у ім лета агрызкі.
На жураўліных крылах
адляцела ўжо песня жняцоў.
Назбіраць бы мне ў кошык
маіх думак імклівы палёт,
у зямлю ўкінуць бы
заўтрашняй долі зерне.
Не калечачы ног
па іржышчы прайсці
цераз слёзы і боль
і чыстую душу завінуць
у снежнабелы паркаль.

* * *

Сцюдзёны вецер
пранізвае душу наскрозь.
Сякуць сняжынкі  вочы.
Па снегавых заносах
брыду на каленях,
аграваючы за пазухай
акраец хлеба.

Маімі сіламі – малітва.
З-за  малочнай
сцяны мяцеліцы
прабіваюся на дарогу.
Да святыні маёй...

## Сасна

На пясчаным адхоне,
куды рака закідае хвалі свае,
з пахіленой спіною
стаіць сасна-старэча,
кронамі шуміць неўміручую
гісторыю свайго існавання,
сонца саграе зраненыя
перуном галіны,
вада, падыходзячы пад бераг,
лашчыць карані самоты.

Сасна... сасна...
маёй долі сяброўка.

## Успаміны

Я зноў
на родным хутары.
Успаміны рэжуць
сэрца да болю,
калышуцца лістоўніцы,
да неба моляцца таполі.

У праменнае дзяцінства
хоць на дзянёк вярнуцца б,
са стала схапіць хлеба лусту,
толькі што выпечанага мамай,
і па лужынах бегчы басанож.

Над галавой крумкач,
а ў далях гіне лета.
Кладзецца вэлюмам туман
і світку шэрані, як плач,
сцеле час кудлаты.

**Песня бярозы**

Шумлівая бяроза
на нашым панадворку
распусціла косы
на ўсе бакі,
апельсінавае сонца
развешвае на ёй праменні.

А каму цяпер
яе напеў журботны?...

* * *

Сягоння сонца
дабратлівым ззяннем
у нашае акно заглядае.

Па-святочнаму
апранаецца прырода
і святочнае яйка
з буйліны ўсміхаецца.

Душа кветкай расцвітае.
Сядзем, мама, за стол.
Хрыстос Уваскрос!

* * *

Зачаравала мяне
Ноч-прыгажуня,
быццам дзяўчыну
рыцар на белым кані.
Абсыпаны зоркамі
мой хутар-айчына
ў сне дрымучым стаіць.

Месяц-князь
мячыкам коціцца,
сярод ночы апавядае
казку мне.
На снезе брыльянтаў
россып.
Ці пяшчотаю вачэй
іх узняць змагу,
каб выставіць з сэрца
жабрацкую тугу?

* * *

Хвала словам родным,
зернем у свежай раллі
выб’юцца сонцу насустрач
кволай сцяблінкай
яны,
Земляроб іх прасее
на далонях сваіх,
як часцінкі прасфоры,
і стануцца
блізкім,
святым.

* * *

Холад душы,
ледзяны позірк,
каменныя постаці
застылыя
ў дэманічным руху.

Калісьці жывыя,
цяпер мёртвыя статуі
ва ўласнай няволі.

Даўней блізкія,
сёння чужыя.

* * *

Былі дзявочага
шчасця хвіліны,
маёй маладосці гады.
Вясной расцвіталі язміны
і мы шчаслівелі тады.

* * *

На стале – хлеб і вада.
Святочнасць на белы абрус
маміны рукі ўсклалі.
Ікона бласлаўляе вячэру.
Дзень схіліўся да ночы,
цішыня, быццам макаў засеў.

Адыходзяць голад і стома
і расце зноўку надзея –
са мною Ты,
наш Бог.

## У красе вясны

Адчыняеш, мама,
дзверы у наш сад,
а ён  тоне ў белі
і ў сэрцы тваім шчэ
маладосць пульсуе.
Вясна ў красе
і ты ў цюльпанавай сукенцы,
вочы твае
прагна шчасця просяць...
Тонеш у мелодыі
наваколля,
а з далоняў пялёсткі
ўвысь плывуць.

**Захады сонца**

У вачах мамы
бляскам мінулага
адбіваюцца захады сонца.
Рытм яе сэрца
напаўняе наш дзень.
На яе скронях
сумота восеньскай радасці.
І толькі сасмяглыя вусны
прагна высвечваюць,
усё яшчэ смакуюць
даўняе каханне.

Годна маўчыць
адвячоркавая цішыня
напярэдадні яе дня.

Малюся, каб чарговы
не быў апошнім.

* * *

Шыпяць вужы
агрэсіўнай эпохі,
апутваюць мае ногі,
змушаючы
памерці пры жыцці.

Наканаваннем лёсу
стаю самотна
паміж
залатым пустынным
пяском
і сваім Богам.

Жар слепатой
вочы зацягвае,
мой крык –
пратэст дарэмны,
і толькі
учарашніх мараў косці
вецер у пясчаны дыван
завівае.

* * *

Дзе ж ты, залатая рыбка?
У якой казцы цябе шукаць?
У якія глыбіні людскіх сэрцаў
углядацца,
каб вычытаць з іх
затопленыя мары?
Учапіўшыся ў грыву
разгайданай стыхіяй хвалі,
як пераплысці акіян,
каб не згубіць дарогі
да крыніцы веры,
каб золата
не засляпіла вачэй,
каб маўклівым пажаданнем
сплыла з думак адзінота,
якую час неспаваротны
засеяў...

## Вецер

Старая аканіца
скрыпіць балюча...
Сухой галінкай слівы
вецер то пастукае ў вакно,
то жменю сняжынак
да шыбаў прыклеіць.
то шукае сябрыну,
каб зайсці на вячэру.

І свіснуў... І ў коміне,
душой нябачнай кагось
з маіх продкаў прыкінуўся
ды за сталом апынуўся.

А я ў пустой хаце
іграю з ветрам у карты.

* * *

Справядлівыя маўчаць.
Абаронцы праўды і святла,
непачутыя
ў зямным сусвеце,
здалёку ад справядлівых
законаў, якім дадзена
рашаць пра чалавечы лёс,
ідуць насуперак злу,
расціраючы пад нагамі
крышталікі сваіх слёз.
З крыжом на плячах
ідуць за Хрыстом.

Перад імі –
асветлены шлях,
за імі –
неўміручы боль.

## Калыска

Гусакі –
Твая, мама, калыска,
час замёў на бруку
твайго існавання сляды.
Сонца зямлі
пакланілася нізка.
Твой захад – маім.
Адвячоркам па вёсцы блукаю,
адгукнешся мо рэхам
у мулявіцкіх лясах,
выплывеш, можа,
ў туманных прывідах,
што як цюль,
                як ладан
цяпер мае Гусакі
                        спавіваюць.

* * *

У маміным агародчку
разложыстая капуста,
а з-пад яе, вось бяда,
вылазіць лебяда,
да сонца шыю
выцягвае сланечнік,
крычаць хілыя морква і дыні:
Дзе ж наша гаспадыня?!
З боку ўсміхаецца лісліва
агнём пякучая крапіва.
Цыбуля вушы апусціла,
яе пласкуха заглушыла.
Зубамі скрыгаціць асот,
аж фасоля закрыла рот.
Пустазелле шуміць на волі –
так яшчэ не было ніколі.
Гародніна пераживае мукі,
таму што ад стомы
прыснулі маміны рукі.

## Мамін букет

Мамін казачны букет
з сініх валошак,
быццам жытняй хвалі,
з веснавых цюльпанаў,
нявінных пралесак,
што першымі прыйшлі
сустрэць вясну,
з лёсам падараваных
радасці і смутку,
з кветкі папараці,
якой так і не знайшла,
цяпла вачэй,
з крыніцы ласкі,
з малітвы вышаптанай
па дарозе ў прышласць...

Букет жыцця –
вясна з надзеяй у руках.

## **Запрашэнне**

Запрасіла мама ў хату
жоўтую вяргіню,
каб на пялёстках
прынесла сонечнае цяпло.
Белыя і фіялетавыя астры
пераскочылі праз парог,
а рознаколерныя гладыёлусы
занялі месца ў вазе.
Паскрэблася ў дзверы
мыш бяздомная,
у кутку павук заўзята
прадзе кудзелю.

Запрасіла мама восень
у сваё сэрца.

* * *

*Благославенни чистыи сердцем,*
*яко они Бога узрят*

Урастаю ў маладняк,
якому пакланяюцца
кроны векавых дрэў,
пераказваючы свой жыццяпіс.

Адбіваюся ад празрыстых
берагоў ракі жыцця
праз бяздонную цемру мора
у пошуках сваёй прыстані.

Перагортваю рукамі зоры,
што дасталіся таму,
хто ў свой час нарадзіўся.

Выкідваю, як авадня, боль з ушы,
каб вочы шчасцем заззялі
пад белым квеццем чаромхі.

Аддаўшыся Усявышняму,
перапісваюся з небыцця ў быццё,
ніколі не ўбачыўшы гары Фавор.

## Сонейка

*Унучцы Кацярыне*

Цераз слёзы і боль
бязгрэшнай,
празрыстай кропляй расы
ты вясною завітала на свет,
першай кветкай
расцвіла на світанку,
мацярынскім шчасцем чаканым.
Па святочнаму зіхацеў
у святыні алтар.
Ясным сонцам з вяршыняў нябёс,
працягнуў да цябе ручкі свае
па-дзіцячаму маленькі Хрыстос.

## Канстантынопаль

*Дачцэ Ані*

Пнуццца да неба мінарэты Стамбула
і на малітву заклікае Аллах.
Чужая краіна цябе прыгарнула,
па водах Мармары плыве сонечны дах.

Студэнцкага шчасця залачоныя мроі,
чаму немагчыма табе іх прыняць?
У вачах стаяць славянскія хвоі
і лета пахучая сенажаць.

Гагія Сафія дастойна ззяе,
аксамітны брыз разганяе тугу,
Святая Дзева дзіця прытуляе...
На жаль, я цябе прыгарнуць не магу.

Стамбул цябе сонцам трымае...
А ты памкніся душой над Басфорам
да роднае хаты, дзе дагэтуль чакае
талерка з віфлеемскай прасфорай.

06. 01. 2014

* * *

*Георгію*

Свет быў перад намі...
І на світанні зноў
мы кветкамі закрасавалі.

У новым прамінанні
агніста ўспыхнулі сэрцы.
І не стрымацца нам
прад маладосці небакраем.

Благаслаўлёныя ў нябёсах
жураўлінай п*а*раю
насустрач сонцу
ляцім.

ЗМЕСТ

